Год V. 1927 КАСТРЫЧНІК Кніжка 8-ая




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест.



Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22.

# На ратунак ахвярам стыхінай катастрофы

Браты Беларусы! Улетку гэтага году цэлая чарга ўраганаў пранеслася над часткай шматнакутнай нашай Бацькаўшчыны. Сіла гэтых ураганаў была такая вялікая, што шмат дзе зьнішчыла пасевы, зьніштожыла многа сялянскага дабра. Былі навет ахвяры ў людзях.

Цяпер надыходзе зіма, і нешчасьлівыя ахвяры стыхійных катастрофаў стаяць перад страшаком галоднае сьмерці.

Браты Беларусы! Нешчасьлівыя ахвяры разбушаваўшыхся сілаў прыроды спадзяюцца і чакаюць ад нас дапамогі. Яны вераць, што мы ўявім сабе іх няшчасьце і выпаўнім перад імі свой грамадзкі абавязак, яны вераць, што справу іх мы прымем да сэрца і перад абліччам голаду дружна падтрымаем іх сваімі пасільнымі ахвярамі.

Браты Беларусы! Беларускі Камітэт помачы ахвярам стыхійных няшчасьцяў кліча Вас да пасільнай самаахвярнасьці. „З міру па нітцы—голаму сарочка“ — хай будзе нашым лёзунгам.

Вы ўжо сабралі з поля, дык хай-жа частка вашай цяжкай працы будзе ахвяравана на нешчасьлівых нашых братоў. Зьбірайце па ўсіх кутках нашай Бацькаўшчыны ахвяры і прысылайце ў Камітэт, які вашыя ахвяры будзе накіроўваць на месцы катастрофаў. Зьбірайце ўсё, што можа даць наша старонка. Рэчы і прадукты пераводзьце на грошы.

Хай кожная вёска, мястэчка, ці хутар з'арганізуе збор ахвяр, які перасылайце скарбніку К-ту грам. **І. Біндзюку** (Вільня, Віленская 8, кв. 3).

За інфармацыямі зварачайцеся да сэкратара грам. **Ул. Павалковіча** (Вільня, вул. Сьв. Ганны 2—3).

**Беларускі Камітэт Помачы**
**Ахвярам Стыхійных Няшчасьцяў.**

**САХА**

Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.

# Навука на службе земляроба.

Перш, пакуль парэзаць жалезам
незнаёмую зямлю,
Ты паветра і кліматы ўсе зьмены
пазнаць пастарайся.
І то, як працавалі дзяды, які
даўней быў звычай,
Чаму ўраджай быў вялікі і што
нерадзіла зусім.

Віргілі.

Чалавецтва ад пачатку свайго істнаваньня на зямлі заўсёды шукала новых шляхаў для палепшаньня свайго быту. Жыцьцё не магла стаяць на адным месцы, а заўсёды ішло ўперад, пакідаючы ззаду старыя аджыўшыя формы і замяняючы іх на новыя, больш адпаведныя патрэбам часу. Гэты рух заўсёды зачапляў і галоўную крыніцу істнаваньня чалавецтва — земляробства.

Гісторыя сельскае гаспадаркі кажа, што нашы продкі калісьці ў дагістарычныя часы ня толькі ня знали трактараў, жніўярак-снапавязалак, паравых малатарняў і іншых прыладаў апрацоўкі зямлі, што мы бачым цяпер у культурных гаспадароў, але ня ведалі, што такое апрацоўка ральлі. Дзікая зьвярына, дзікія карэньні траваў, а каля рэчак і вазёр—рыба, здавальнялі патрэбнасьці нашых продкаў.

Але, з размнажэньнем людзей на зямной кулі, гатовыя харчы зьмяншаліся, пражыць станавілася трудней і чалавек мусіў зьмяняць спосабы дабываньня сабе пражыўленьня. Людзі пастухова пераходзяць да земляробства, а паляваньне, а потым скаціноводства ўступае месца сельскай гаспадарцы.

Але і тут няма застою. Формы сельскае гаспадаркі ня ёсьць штосьці няpухомае, а як паказвае гісторыя, заўсёды зьмяняюцца, прытасоўваючыся да патрэбаў часу. Чалавек у барацьбе за сваё істнаваньне напружае ўсе свае фізычныя і духовыя сілы, каб дастаць сабе галоўны прадукт пражыўленьня — хлеб,

Вядучы гэту трудную барацьбу, людзі нарэшце прызываюць на дапамогу сабе навуку, у хаўрусе з якой земляробу лягчэй падняць прадуктыўнасьць сваёй працы. Навука служыць чалавеку аружжам для павялічэньня ўраджаяў,

для пераводу бясплодных зямельных абшараў у культурны стан. Сыпучыя пяскі, непралазныя балоты, скалы і навет часткі акіянаў і мораў пераводзяцца з дапамогай навукі ў пладародную ральлю. Прызваўшы навуку, земляроб лепш ладзіць і з сіламі прыроды, якія часта прымушае служыць яму.

Здавалася-б, што карысьць хаўрусу навукі з земляробствам так вічавідна і карысна, што аб гэтым і гутаркі завадзіць ня трэба. Але мы гэтага яшчэ сягоньня ня бачым у частцы нашае Бацькаўшчыны, якая знаходзіцца ў межах Польшчы. Сельская гаспадарка ў нас у заняпадзе, ураджаі з кожным годам памяншаюцца. Недароды, а разам з імі убоства нашага земляроба — вось што падарожыць нашаму селяніну.

**Чаму гэта так?**

Многія кажуць, што віной нашага убоства, адсталасьці—ёсьць наша цемра. Праўда, наша старонка цёмная, наш селянін яшчэ і сягоньня чураецца навукі, якую лічыць за „панскую пацеху", ён яшчэ больш верыць розным забабонам, чым навуковым дасьледам. Думка нашага дробнага земляроба ськівавана на тое, каб як-небудзь павялічыць плошчу свайго надзелу і ў гэтым толькі бачыць свой ратунак.

Але-ж, каб даць поўны адказ на пастаўленае пытаньне, мы мусім зьвярнуцца да тых цяжкіх гістарычных умоў існаваньня Беларусі, пры якіх амаль што было немагчымым нашаму селяніну дабіцца да навукі. На селяніна з яго земляробствам глядзелі як на нешта абніжаючае, нявартае ўвагі.

**А цяпер? Ці зьмяніліся адносіны да лепшага?**

Трэба прызнацца, што ўмовы жыцьця земляроба ў Заходняй Беларусі за апошнія часы шмат зьмяніліся, але ня бяру на сябе гэтакай грамадзкай сьмеласьці, каб сказаць, што палепшыліся. Калі раней умовы існаваньня Беларусі былі цяжкія, дык была надзея палепшыць іх, была проба скрануць нашу адсталасьць з нярухомага пункту. Хаця марудна, але ўтварыліся неякія сельска-гаспадарчыя школы, дасьледчыя станцыі, дасьледчыя палі, якія час-ад-часу заносілі ў нашу вёску свае дасягненьні. Цяпер і гэтага ня бачыць наша старонка. Замест асьветы мы маем штосьці іншае, пра-што ведае кожны беларус...

**Дзе-ж шукаць ратунку?**

Збудаваць каштоўныя Акадэміі, сельска-гаспадарчыя школы, дасьледчыя станцыі наша агалочаная старонка ня можа. Паклікаць на службу аграномаў, інструктароў і ін-

шых сьвядомых у сельскай гаспадарцы людзей, якія-б нясьлі сьвятло навукі ў самыя цёмныя куткі нашае Бацькаўшчыны — таксама немагчыма. Астаецца і трэба скарыстаць дасьлед і працу нашых перадавых сялян. Калектыўная думка нашых гаспадароў—адраджэнцаў пад уплывам бачанага ў часе вялікай вайны назьбірала шмат „ведаў“. Старыя гаспадары пазнаёміліся з таемнасьцямі беларускай прыроды. Усё гэта для нас ёсьць хаваны скарб, які павінен быць уласнасьцёй усяго грамадзянства.

Няхай маласьвядомы беларускі земляроб часам ня можа разьбірацца ў сувязі зьявішчаў прыроды, якія ён бачыць, але ад гэтага фактычны матэр'ял яго назіраньняў ня губляе сваёй вартасьці. Дасьлед нашага селяніна, які старанна будзе працаваць на пастаноўкай іх, дасьць нам лепшую карысьць чым навуковыя даныя загранічных дасьледчых станцыяў, якімі нам беларусам з іншымі умовамі сельскае гаспадаркі, карыстацца трэба вельмі асьцярожна.

Хай-жа нашы перадавыя земляробы не адмовяцца па старонках „Сахі“ дзяліцца сваім дасьледам, сваімі назіраньнямі ў розных галінах сельскае гаспадаркі.

Хай жа лёзунг „Навука на службу земляроба“ разьнясецца на абшарах Беларусі, хай жа сельска-гаспадарчая кніга і газэта зробяцца запраўднымі таварышамі селяніна. Тады хутчэй мы адчынім дзьверы да лепшае эканамічнае і палітычнае нашае будучыні.

Супольнае праца па старонках „Сахі“ гэтаму дапаможа.

У. Павалковіч.

---

# Як карміць кароў.

Ня толькі сярод сялян нашае вёскі, але і сярод буйных абшарнікаў у межах Заходняе Беларусі, істнуе пагляд на карменьне, як на нешта надзвычай простыя работы. Усюды, дзе пачнеш гаварыць пра правільнае кармленьне, пачуеш: „**Было-б чым карміць, дык кожны дурань патрапіць**“. А між тым, ня толькі дурні, але навет часта і сьвядомыя гаспадары тут грашаць. Ад дрэннага кармленьня каровы — гэтай цэйкарысьнейшай хатняй жывёлы, мы не атрымліваем тэй карысьці, якую яна можа даць гаспадарцы. Пры нашым кармленьні яна не перастае быць толькі машынай для выробу гною, ад чаго, зразумела, яна ня акупае кошту свайго утрыманьньня.

Прыглядваючыся да нашых умоў, здаецца, што ўсё ў нас спрыяе жывёлагадоўлі наагул, а перадусім гадоўлі ма-

лочных кароў: маем тут і суадказныя кліматычныя ўмовы і шмат сенажацяў і добры папыт на прадукты жывёзагадоўлі з боку ўсё ўзрастаючага ліку насельніцтва ў мястэчках і гарадох.

Ня будзе правільным кармленьнем нашых кароў і калі мы будзем іх карміць уволю, ад чаго жывёла будзе сыта, але-ж ці задача правільнага кармленьня састаіць у тым, каб скаціну ўвагнаць у добрае цела? Каб мы перашлі да такога кармленьня, што ў некаторых гаспадарках у нас і робіцца, дык гэтым штогод наш край выкідваў-бы за вакно дарма некалькі міліёнаў злотаў. **Задача правільнага кармленьня састаіць ня толькі ў тым, каб наша скаціна была накормлена да сыта, але каб гэтае кармленьне абышлося гаспадару і найтайней.**

Дык вось, цяпер становіцца зразумелым, што думка нашых гаспадароў, быццам яны змаглі-б добра карміць, каб было толькі чым — ня толькі абмылковая, але і шкодная. Добрыя гаспадары і вучоныя дагэтуль і на Заходзе не пакінулі рабіць усебаковыя дасьледы і адкрываюць нам усё новыя і новыя пагляды на гэтае пытаньне, а па думцы беларускага селяніна, дык ён даўно пакончыў над гэтым пытаньнем. Ад гэтае прыкрае думкі мы заклікаем сваіх чытачоў асьцерагацца, бо гэта адна думка зьяўляецца перашкодай у далейшым поступе нашай гаспадаркі і ў палепшэньні нашага дабрабыту.

Больш усяго над кармленьнем кароў папрацавалі дацкія сяляне, якія вывелі слаўную на ўвесь сьвет пароду. што дае да 450 вёдзер малака ў год.

Ад чаго ж у Даніі так многа дае малака карова? Адказ вельмі просты: ад таго, што яны палепшылі кармленьне і утрыманьне, ад таго, што дацкія гаспадары сталі больш сеяць на полі кўрмавыя буракі і травы. Цяпер у Даніі больш чым $^1/_3$ частка ўсей пахаты занята буракамі і травамі, у той час, як у нас столькі ж знаходзіцца пад гуляючым папарам, які не карысьць гаспадарцы нясе, а страту. Датчане цяпер не прадаюць хлеба, а ўсе лішкі яго скармліваюць скацінай. Прадаюць-жа яны толькі прадукты жывёлагадоўлі, з каторых першае месца займае масла.

Прыглядваючыся да жыцьця ў Даніі можна заўважыць, што там больш дробных гаспадарак у 3—5 дзесяцін. Вялікіх-жа гаспадарак нямнога. Пры гэтым цікава адзначыць' што малыя гаспадаркі, у якіх перавагу мае жывёлагадоўля, даюць большую карысьць з дзесяціны, чым вялікія. Тлумачыцца гета тым, што дробны гаспадар заўсёды лепш даглядае сваю гаспадарку сам, чым у багатых нанятыя людзі-

Вось які прыбытак маюць розныя па вялічыне гаспадаркі з кожнае дзесяціны.

| ВЯЛІЧЫНЯ ГАСПАДАРКІ | атрымана малака ў фунтах | Здадзена на масла-бойны завод фун. малака | Забіта сьвіней | Прададзена яек |
|---|---|---|---|---|
| Гаспадарка у 3 дзесяц. . . | 20,877 | 19,228 | 8,3 | 172,0 |
| " " 9 " . . | 11,559 | 10 471 | 4,5 | 62 2 |
| " " 27 " . . | 8 722 | 8,146 | 3 3 | 27,0 |
| " " 54 " . . | 4 795 | 4,456 | 1 4 | 6,1 |

Лічбы самі за сябе красамоўна кажуць.

Затым, што Данія бедная па прыродзе, як і наша Беларусь і так пабагцела ад сялянскай прамысловасьці, загэтым яна нас больш усяго і цікавіць. Нам, беларусам, ёсьць чаму навучыцца ў Даніі.

(Працяг будее).

# Беражэце сваю скаціну ад сібірскай язвы.

**Сібірская язва—сьмяртэльны вораг сялянскай гаспадаркі: ад яе штогод на Беларусі прападае шмат скаціны і навет паміраюць людзі!**

Сібірка — хвароба ня новая у нас на Беларусі; яна штогод зьяўляецца па розных месцох, але ня ўсякі год гэта хвароба прымае эпізаотыі з масавым падзяжом скаціны.

Сялянам трэба зьвярнуць увагу на гэту страшэнную хваробу і павесьці з ёю самую рашучую басацьбу. Калі самі сяляне і паасобныя гаспадары будуць ведаць. як усьцерагчыся, каб не занесьці да сябе заразы сібірскае язвы, дык гэта значна палегчыць і самую барацьбу з ёю. Толькі сьвядомасьць самага насельніцтва ў барацьбе з сібіркай дасьць гарантыю таго, што яна найхутчэй можа быць зьнішчана і пазбавіць сялянскую гаспадарку ад вялікіх страт. Вось, дзеля чаго сялянам і трэба ведаць, што гэта за хвароба і як з ёю змагацца.

Сібірка бывае ўва ўсіх жывёлін і ў чалавека. Выклікаецца яна праз заражэньне жывёлы асобнымі мікробамі. Усюды, дзе толькі застаюцца сьляды хворае жывёлы, застаецца і зараза. Небясьпечны магілы і ямы, дзе валяюцца незакапаныя трупы, капыты, рагі і інш. Сабакі, ваўкі разьцягваюць заразу, а таксама мухі і авадні разносяць яе на значныя прасторы. Зараза яшчэ разносіцца праз зьнятую скуру, волас, шэрсьць ад хворае на сібірку жывёлы.

## Калі трэба падазраваць у жывёлы сібірскую язву?

У жывёлы падазраваюць захвараваньне сібірскай язвай і паведамляюць вэтэрынара: 1) калі жывела раптоўна памрэ і пры гэтым з задняга выхаду, з роту і носу будзе выцякаць крывавістая сукравіца, 2) калі ў жывёлы без усякай прычыны зьявіцца дзе небудзь на жываце альбо на грудзёх небалючы вопух, які шыбка будзе павялічвацца.

## Што рабіць. калі ў гаспадарцы зьявіцца сібірская язва?

Перш за ўсё трэба безадкладна паведаміць вэтэрынара аб зьяўленьні хваробы. Потым здаровую скаціну абавязкова патрэбна вывесьці з заражонага хлява і аддзяліць ад хворай. Гной пасьля хворай скаціны вывесьці і спаліць, а ў хлеў, дзе была прапаўшая скаціна, нікога ня ставіць без дазволу вэтэрынара, які таксама дасьць раду, як зрабіць дызэнфэкцыю хлява, драбіны і інш. Калі былі выпадкі раптоўнай сьмерці жывёлы на пашы, дык трэба зараз-жа зьмяніць пашу і на тое месца ня пускаць нікога. Лепей усіх кароў вёскі паставіць па дварох тыдні на два і сачыць за імі. Калі ў працягу двох тыдняў яны не захварэюць, дык можна лічыць, што застануцца і ва далей здаровымі. Галоўным чынам, трэба рупіцца прыбіраць трупы паўшай жывёлы і закопваць іх разам са скурай на скоцкіх магільніках і на глыбіню ня меней 3 х аршын. Таксама неабходна выконваць усе загады вэтэрынара, калі ён прыедзе і праканаецца, што гэтая хвароба ёсьць сібірка, і загадае пэўныя спосабы змаганьня з ёю, каб яе канчаткова зьнішчыць у данай гаспадарцы. У цяперашні час здаровай жывёлы робяць прышчэпкі супраць сібіркі, падобна да таго, як шчэпяць воспу людзям. Гэтыя прышчэпкі зусім няшкодны і застрахоўваюць жывёлу ад сібіркі на адзін год.

Вэтэрынар **М. Жарын**.

# Як абязшкодзіць бадлівасьць кароў.

„Пярун ударыць—селянін перахрэсьціцца“ кажа беларуская пагаворка. Няшчасьце здарыцца — мы толькі тады падумаем аб прычынах яго. Шкода, што мы часта жывём заднім розумам.

Сколькі бывае няшчасьных выпадкаў у нашай вёсцы, якія лёгка можна было-б ухіліць, каб мы больш дбалі аб сваім дабрабыце. Напрыклад: ганяюцца нашы каробкі па пашу стадам у 100—200 і больш штук. Адна другую штургае, коліць, а рогі вострыя, як шылы.

Параіш гаспадару, каб абрэзаў рогі ў сваёй каровы— слухаць ня хоча. „Шкода, кажа, бо ў маёй гарбалыскі вельмі-ж яны прыгожыя ды яна і спакойная, усіх кароў баіцца. А потым, зьнімем рогі, дык яна і малака перастане даваць“.

Вось што пачуеш у нашай вёсцы ў адказ на гэту раду. Забобоны, забабоны, сяляне. Ня з імі нам уваходзіць у сям'ю культурных народаў. Карова ў рагох малако ня носіць, а дамагацца ад яе мы мусім ня прыгожага вонкавага выгляду, а малачка, якое часта адбіраецца ў нас гэтымі-ж прыгожымі рагамі.

Культурныя гаспадары вырашчваюць стады зусім без рагоў, а каробкі іх даюць столькі малака ў год, сколькі наша гарбалыска ня дасьць за 3 — 4 гады і з прыгожымі шыламі—рагамі.

Перш, каб збавіцца ад рагоў, прыпякалі маладому цялюку напаленным жалезам тое месца, скуль растуць рогі. Гэты способ просты, але цялюку апэрацыю пераносіць цяжка. Цяпер у Даніі ўжываецца вельмі просты і лёгкі способ затрыманьня росту рагоў, які раю ўсім чытачом „Сахі“. Способ гэты наступны:

Маладым цялатам на 4 тыдні іх жыцьця, выстрагаюць шэрсьць на тым мейсцы, дзе абазначаюцца пачатыі будучых рагоў. Потым макаюць гусінае пёрка ў „Kali Causticum“ (дастаць можна ў кожнай аптэцы), датыкаюцца рагавых пачаткаў з кожнага боку асобна. Для пэўнасьці апэрацыі паўтараюць 4 разы з перарывам ½—1 мінуты.

Даведзена практыкай, што карова з гэтакага цяляц вырастае без рагоў, мае добры апэтыт і дае больш малака.

Пляхтур.

# Зьнішчайце апаўшае лісьце ў садзе.

Вядома ўсім, хто мае сады, што хутчэй і даражэй магчыма прадаць чыстыя бяз плям яблыкі, а калі гаспадар мае яблыкі з плямамі ды яшчэ малыя, дык ён ня можа прадаць іх за добрую цану, Чаму гэтак бывае? А таму, што сады, якія знаходзяцца ў чыстаце, у якіх у час робіцца неабходная абрэзка, дакладна зьбіраюцца і зьнішчаюцца захварэўшыя плады, лісьце і засохшыя галіны, даюць звычайна лепшы і больш сталы ўраджай пладоў, Але ў нас чыстаты ў садох зусім не назіраецца. Усюды сустракаем сады, у якіх абрэзка, амаль што зусім ня робіцца, хворыя галіны, а таксама плады ня зьнішчаюцца. Лісьце, якое апала з дрэва ўвосень, ляжыць на зямлі аж да вясны, у іншых выпадках лісьце зьбіраюць пад плот у кучы, але зусім рэдка яго зьнішчаюць.

Між тым, гэта лісьце выяўляе значную пагрозу таму, што на ім зімуе цэлы шэраг чужаедных грыбкоў, як парша яблыкаў, альбо ігрушаў.

Вось калі ў пачатку вясны зьбяром у садзе апаўшае лісьце яблыні або ігрушы і яго пераглядзім, дык на ім знойдзем невялікія чорныя кропкі — гэта пладнічкі грыба з пасьпеўшымі зімовымі зароднікамі (спорамі). Споры — надта малюсенькія зярняткі, адпавядаючыя па свайму прызначэньню зярнятам іншым расьлін. Калі спора пераносіцца ветрам, на маладое, толькі што расьпусьціўшаеся, лісьце альбо плады яблыні і ігрушы і пападзе ў добрыя ўмовы жыцьця (цяплыня і вільгаць), дык яна пачынае прарастаць і дае пачатак новаму арганізму, так званай грыбніцы. Грыбніца пачынае шпарка расьці і вынікамі такога разьвіцьця атрымоўваюцца ізноў споры.

За ўвесь летні час споры грыбка могуць заразіць шмат садоў, і хвароба будзе перадавацца кожны год. Назоў гэтых хвароб — парша.

У нас існуюць галоўным чынам дзьве паршы: адна на яблыні, а другая на ігрушы.

Паршу яблыні, пры добрых умовах яе разьвіцьця, магчыма ўбачыць, амаль што на ўсіх яблынях; асабліва прыметна яна ў летні час на яблыках, якія пакрыты зеленавата-аксамітнымі плямамі, а таксама і па лісьцях у выглядзе чорных кропак, альбо плям. Калі плям на лісьцёх зьявіцца шмат, дык лісьце сохне і ападае сярод лета. Падобныя ж чорныя. аксамітныя плямы зьяўляюцца і на маладых яшчэ зялёных галінах. Асабліва парша шкодна для маладых яблык; ад хваробы яны пачынаюць вяць і ападаць.

Парша ігрушы сустракаецца на лісьцях, пладах, на галінах і паростках. На маладых паростках і галінках, яна выклікае скрыўленьне і шчыліны. Гэткія шчыліны даюць добры прытулак для розных шасьціножак і пачатак хваробе раку; самі парасткі і галіны гінуць. Плады, якія захварэлі паршай зморшчваюцца, даюць таксама шчыліны і пакрываюцца плямамі; маладыя плады в. уць і ападаюць.

Такім чынам мы бачым, што апаўшае лісьцё зьяўляёцца местам хваробы для яблыні і грушаў

Каб ня было гэтых хвароб трэба:

1) зьбіраць і зьнішчаць апаўшае лісьце; гэтым мы зьнішчаем усіх чужаедаў;

2) абрэзаць і паліць захварэўшыя галіны;

3) зьбіраць і зьнішчаць застаўшыяся на галінах гнілыя плады;

4) апрысквадь расьліны перад распусканьнем пучкоў, або ў час распусканьня растворам бардоскай жыдкасьці;

5) апрысквадь расьліны пасьля цьвіценьня два разы (праз два тыдні (раз заразам).

Бардоская жыжка прыгатаўляецца так: у гліняней пасудзіне раствараюць 3 фунты сінега камяня, а ў другой пасудзіне гасяць 2 фун. вапны і разбаўляюць яе да малака. Пасьля гэтага бяруць кадку або бочку, у якую ўліваюць з пачатку раствор сіняга камяня, а пасьля малако вапны. Усё добра мяшаюць, каб ня было камкоў, даліваюць вады да васьмі с паловай вёдзер і састаў гатоў. Калі састаў пастаіць, дык ён глуміцца.

Зрабіўшы паказаныя працы ў садзе, у нас ня будзе больш плям на яблыках і ігрушах, і павялічыцца ўраджай,

**М. Пілько.**

---

# Як рабіць з яблыкаў пасьцілу, мармаляд і павідла.

Перарабляць садовіну на павідла і мармамаляд вельмі лёгка і проста. Работа гэтая не патрабуе адумысловых прыладаў і інструмантаў. Звычайная руская печ, дзе пякуцца і сушацца яблыкі і грушы, кацёл ці вялікі чугун для варкі пладоў; сіта для праціркі садовай мякаці і ацынкованае сіта для сушкі—вот і ўсё, што трэба мець у гэтым разе.

Аснаўным матар'ядам для перапрацоўкі будуць яблычнае і грушавае пюрэ (звараныя і перацёртыя плады), якое

робіцца так: плады варацца ў катле ці ў чугуне. Яблыкі лепш пячы ў печы (для пасьцілы бяруцца толькі печаныя яблыкі). Яблыкі пякуць датуль, пакуль мякаць не разварыцца. Трошкі дабаўляецца вады, каб яблыкі са дна не прыгарэлі. Пасьля звараныя ці спечаныя плады праціраюць праз сіта, каб скурку, нясеньне і сярэдзінку аддзяліць ад мякаці. Гэтак працёртая мякаць і ёсьць пладовае пюрэ. З яго далей ужо можна рабіць пасьцілу, мармаляд ці павідла.

**Пасьціла** вырабляецца бялковая і безбялковая. Каб зрабіць бялковую пасьцілу, бярэцца пюрэ і зьбіваецца ў якой-небудзь пасудзіне да таго часу, пакуль яна не ўсьпеніцца і не пабялее. Затым дадаюць на кожныя 5 фун. масы па 1-2 бялкі курыных яек. Пасьля ізноў зьбіваецца да пены. Зьбіваньне гэта цягнецца мінут 40-50. Тады дабаўляюць цукру; на 1 фун. масы ¼—⅓ фун. цукру. Ізноў зьбіваюць мінут 30-40, пакуль маса ізноў пабялее і зробіцца, як каша. Далей на сіту пасьціляюць белую ці жоўтую паперу і наліваюць зьбітую масу таўшчынёю 1-1½ сантымэтраў і ставяць у лёгкую печ (50°-60°) гадзіны на 3-4, пакуль прадукт ня зробіцца зусім сухім.

Высушаны прадукт вымаюць з печы, здымаюць з сіт і пакідаюць пры хатняй цяплыні дзён на 2 на 3. Затым здзіраюць паперу, накладваюць некалькі пластоў адзін на другі па 15-25 шт., пераклаўшы іх сьвежа зьбітаю масай, варэньнем ці мёдам і з паверхні наводзяць глянс зьбітай масай, далей ізноў падсушваюць. Пасьля высушкі пасьціла гатова.

Захоўваюць пасьцілу ў драўляных скрынках, высланых паперай у прахладным памешканьні. У яблычную мякаць можна дадаць выціснуты сок з ягадаў і пасьціла будзе з прысмакам земляніі, маліны, рабіны і г. д.

З ігруш пасьціла не робіцца, бо мякаць яе дрэнна зьбіваецца ў пену.

Безбялковая пасьціла прыгатаўляецца такім-жа парадкам, як бялковая, толькі не дабаўляюцца бялкі з яек, а цукру бярэцца больш: на 1 фун. мякаці бярэцца ½-1 фун. цукру. Бялковая пасьціла мае выгляд белае больш пульхнае масы, як безбялковая.

З 100 фун. яблык палучыцца каля 80 фун. пюрэ. На што ідзе каля 40-50 фун. цукру. Пасьля прасушкі палучаецца да 2 пуд. пасьцілы.

**Мармаляд.** Бярэцца яблычнае пюрэ альбо яблычнае, памешанае з ігрушамі. Дабаўляецца цукар і варыцца ў меднай пасудзіне ці пабяляных чыгунох. Масу з пюрэ трэба пастаянна памешваць, каб ня выкіпэла да такое гушчыні, што пасьля астыўшы ня зрабілася б цьвярдою. Затым увараную масу

выліваюць у драўляныя латкі, высланыя пергамінавай паперай. Наліваюць пасьцілу таўшчынёю ў 1 сант. Як маса застыне, пераносяць яе з паперай на сіта і ставяць у печ для прасушкі, пры цяпле 50°-60°, пакуль яна не зробіцца цьвёрдай. Высушанаму прадукту даюць адлажыцца на дзён 3-5. Здымаюць паперу, рэжуць на кускі, перасыпаюць цукрам. Цяпер мармаляда гатова.

**Павідла.** Бяруць яблычнае і грушавае пюрэ, дабаўляюць на кожныя 4 фун.—1 ф. цукру і ўварваюць гэта на слабым агні. Уварваючы трэба пюрэ пастаянна памешваць, каб маса не прыгарэла. Каб мець належную гушчыню, трэба падаграваць мінут 35. Трэба праз увес час падтрымліваць кіпеньне. Згусьцеўшую масу шчыльна укладываюць у гліняныя гаршкі і ставяць іх у лёгкую рускую печ (як хлеб вымуць), каб на прадукце зрабіляся лёгкая скарыначка, якая захоўвае ад псаваньня павідла. Затым гаршкі абавязввюць пузыркам ці пергамінавай паперай, заліваюць смалою ці воскам і захоўваюць у халаднаватым месцы.

Аграном **К. Цэхановіч.**

---

## Пачнем культурна займацца пчалярствам.

Шмат хто з маладых пчаляроў думае, што стоіць завесьці пчол, як адразу можна будзе бяз лішняга клопату ад іх забагацець. А таго ня ведаюць, што нішто ў гаспадарцы ня вымагае столькі дагляду, клопату і спэцыяльных ведаў, як пчолы, каб мець з іх карысьць.

Раней прыродныя ўмовы Беларусі былі трохі больш спрыячымі для пчол. Таму можна была палучыць даход ад пчол, водзячы іх навет у калодах і бяз спэцыяльных на тое ведаў. Цяпер-жа толькі той можа называцца пчаляром і спадзявацца ад пчол даходу, хто вывучыў усе законы, па якіх жывуць пчолы. **Сам'я пчол—машына вельмі складаная і далікатная.** Хто-б мог, напрыклад, спадзявацца, што такая маленькая штука, як вусікі, пчалы маюць каля 20 000 камарачак, якія можна разглядзець толькі праз моцна павялічынае шкло мікраскопа. Цяпер ужо вядома, што пчолы добра водзяцца не праз калдаўство, а ў таго, хто добра ведае законы, як разводзяцца, жывуць і працуюць пчолы. А веды гэтыя дае толькі навука.

Есьць шмат і такіх пчаляроў, якія хоць і ня вераць розным калдуном і забабонам, аднак думаюць, што пчол можна трымаць бяз жадных ведаў па пчалярству, скажам, як курэй ці кароў.

Адзін селянін з-пад Менску, даведаўшыся, што пчолы прыносяць карысьць ня толькі мёдам і воскам, але і тым, што апыляюць кветкі і гэтым павялічываюць дахол гаспадаркі, завёў пчол. Пчолы гэтыя ён пасадзіў у рамавыя вульлі і пакінуў іх зімаваць на дварэ, хаця вульлі аднасьценныя. Аглядзеўшы вясною свае вульлі, ён убачыў, што пчолы былі мёртвымі, хаця корм яшчэ застаўся. Дагадаўшыся, нарэшце, што пчолы проста замерзьлі, ён ізноў купляе пчол і садзіць іх у тыя ж вульлі.

З падыходам зімы на гэты раз пчолы ён уносіць у жылую хату. Тут нейкі час пчолы стаялі спакойна (хата была старая, а зіма халодная). Але скора ў хаце пацяплела. Пчолы пачалі шумець і выпаўзаць з вульлеў. Каб затрымаць іх на месцы, гэты няўдалы пчаляр зарашоціў лядкі і пчолы зноў паўміралі.

Другі пчаляр з вёскі Падбалоцьце, таксама з-пад Менску, трымае зімой пчол у памешканьні, за сьцяною якога ткуць кросны, часамі сякуць дровы. У гэты „амшанік" ён ходзіць з запаленай лямпай, моцна гаварыў каля вульля, чаго рабіць нельга. Трэці купіў вясною калоду пчол. Увосень палез „паглядзець" і так „пагледзеў", што ў місцы з падрэзанымі сотамі з мёдам знайшлася і дзетка. Умачыўшы ў місцы чарву, ён зьдзіўлена спыніў работу. Мёд прадаў на базары, баючыся, каб і людзі не даведаліся, што ён „у мёдзе чарвей завёў". Сам вядома такога мёду з чарвямі ён у рот ня ўзяў.

Я ўжо вышэй зазначыў, што пачалярства дае вялікі даход, але толькі культурнае пчалярства. Адзін нямецкі прафэсар і вучоны пчалавед Цандэр кажа, што у Нямеччыне даход ад прадажы воску, мёду і пчалярскага інвэнтару дасягаў у даваенныя часы да 25 мільёнаў руб. у год. Павялічэньне-ж нацыянальнага багацьця праз пчалаводзтва ў сельскай гаспадарцы дасягала 450 мільёнаў руб. у год.

Расійскі прафэсар і вучоны пчалавод Логінаў кажа што навет тады, калі-б пчолы зусім не давалі даходаў мёдам і воскам, дык і тады-б мы павінны былі іх разводзіць, бо ад іх карысьць сельскаму гаспадару вялікая.

Што-ж рабіць, каб пчолы добра вадзіліся і давалі даход? Для гэтага трэба:

1) Вадзіць пчол толькі ў рамовых вульлях і умець выбраць такі вулей, у якім можна было-б вадзіць іх па новаму,

2) Умець падрыхтоўваць пчол да зімы, умець даглядаць зімою, а таксама ўмець аберагчы іх ад хваробаў і ворагаў.

3) Ужываць мёдагонку і штучную вашчыну.

4) Трымаць на пасецы толькі сільныя сем'і.

5) Не дазваляць пчолам шмат раіцца, знаць спосабы зьмяншэньня раеньня і ўмець (калі трэба) рабіць штучнае раеньне.

6) Глядзець, каб пчолы падчас галоўнага ўзятку мелі-б даволі месца да складу мёду.

7) Ведаць. калі і з якіх мёданосаў палучаецца галоўны ўзятак.

8) Ня трымаць зусім старых матак.

9) Пчолы разводзіць толькі ад самых моцных і лепшых сям'ёў.

10) Умець прыбіраць, сартаваць і хаваць мёд.

11) Ведаць жыцьцё пчол і ведаць спосабы іх дагляду

Калі раней усе гэтыя веды пчаляру часам нельга было набыць, дык цяпер гэта зусім лёгка зрабіць. Цяпер ня толькі сельска-гаспадарчая часопісь, але нават газэты ахвотна зьмяшчаюць артыкулы па пчалярству.

У нас на Беларусі ёсьць блізка пяцьдзесят тысячаў пчаляроў.

Шмат хто з іх выпісвае спэцыяльныя часопісі па пчалярству, але ня кожнаму гэта пад сілу. Аднак, заўсёды магчыма выпісаць адну часопісь, у якой можна знайсьці парады па розных галінах гаспадаркі. Рэдакцыя часопісі „Плуг" рашчыняе свае старонкі для пчаляроў. Трэба толькі, каб самі пчаляры зьмяшчалі свае артыкулы, падпісьваліся на часопісь і вывучалі-б усе новыя дасягненьні навукі ў гэтай справе. Я маю надзею ў часопісі „Плуг" зьмясьціць цэлы шэраг артыкулаў па пчалярству.

„Плуг".

## Простыя прылады да карчаваньня пнёў алешыны.

Пні алешыны, навет і тоўстыя карчаваць лёгка дзеля таго, што яны слаба прымацаваны да зямлі каранямі. Каб вырваць пень алешыны з зямлі, трэба ўзяць даўгі, моцны дышаль, да якога прымацаваць з аднаго канца на адлегласьці 1 мэтра моцны ланцуг з гакам—крукам. Да другога канца дышля прыладзіць стальвагу з ворчыкамі, да якіх запрагаюць двух канёў. Перад гэтым карані пня падсякаюцца, убіваюць гак у пень і пускаюць у рух коні кругом. Ланцуг абвіваецца і выкручвае пень з зямлі.

# Парады агранома.

**Пытаньне.** Я маю добрую карову 10-12 гадоў. Яна часта ўчасе ахвоты перастае даваць малака і надоўга зарываецца перад цяленьнем: Як змагацца з гэтым злом?

**Я. С.**

**Адказ.** У часе ахвоты амаль кожная карова дае менш малака. Найвялікшая прадукцыйнасьць каровы лічыцца ад 3-га да 8-га цялёнка. Старых кароў дзяржаць часта бывае не эканамічна. Ад лепшага кармленьня „лактацыённы пэрыёд“ ці час у працягу якога карова доіцца, павялічваецца.

**Пытаньне.** Што рабіць з рыбацтвам, якое што-год нішчыць нашы сады?

**В. С.**

**Адказ.** Глядзі аддзел садоўніцтва ў „Сасе“ нумары 2, 5 і 8.

**Пытаньне.** Як зьнішчыць бародаўкі на дойках вымя, якія перашкаджаюць пры даеньні.

**Язэп Нехвядовіч.**

**Адказ.** Калі барадоўкі растуць на тонькіх ножках, дык іх лёгка зьнішчыць. Для гэта трэба ножку туга перавязаць вымытым конскім воласам. За кароткі час бародаўка сама адваліцца, пасьля чаго ў працягу некалькі дзён трэба месца, дзе была бародаўка смазваць ёдам. Бародаўка, якая выдалася на верх толькі сваей макушкай, зьнішчыць самому без дапамогі вэтэрынара трудна.

**Пытаньне.** Ці можна ўжываць лубін (насёньне) на корм малочным каровам.

**К. Аляхновіч.**

**Адказ.** Насеньне лубіну, якое багата бялком — найсытнейшым складнікам кожнага корму, малочным каровам даваць пажадана. Перад дачай каровам гэтага корму, трэба перш усунуць гарчыню вымачваньнем насеньня. Больш 6—7 фунтаў лубіну на штуку ў дзень даваць ня трэба, бо корм гэты тады карове хутка абрыдае.

**Пытаньне.** Як ляпей угнаіваць фруктовае дрэва хлеўным гноем?

**Янна Бэрзін.**

**Адказ.** Гной пад дрэва трэба класьці нявымыты дажджамі, бо ў праціўным выпадку ён ня мае вартасьці. Гной з пад сьвіней ляпей класьці на лёгкую зямлю (пяшчаную) а авечы і конскі на сьвязлую (гліну). Кладуць гной не каля самага дрэва, дзе ідуць толькі адны таўстыя караві, якія спажыву не бяруць, а толькі яе пераводзяць. Там, дзе канчаюцца галінкі дрэва—лепшае месца для гною.

# Парады для гаспадынь.

**Дагляд птушак.** На аднага пэўня добра трымаць ня больш, як дзэсяць курэй. Меншая або большая колькасьць перашкаджае добраму запладненьню яек. Пажадана, каб гаспадыня ведала кожную птушку і паасобку. Дзеля адзнакі накладваюць на нагу кожнай курыцы кольца з нумарам, па якому і запісваюць кожны дзень, калі птушка нясецца. Гэтакі запіс дае магчымасьць падлічыць за год, якая з курэй лепш нясецца, якую пакідаць на другі год, а якая не аплачвае і харчаваньня.

Прыглядаюць нясеньне курэй праз абмацваньне альбо праз кантрольныя гнёзды. Яйкі выймаюць з гнязда па магчымасьці хутчэй, каб яны былі чыстымі і не паклёванымі тэй-жа птушкай. Лепш за ўсё на яйку адзначыць дату, калі яно зьнесена і ставіць нумар птушкі. Гэта дае магчымасьць ведаць сьвежасьць яек, што асабліва каштоўна вясною і раньнім летам у час вываду курчанят. Яйкі, праляжаўшы больш як тры тыдні, на паклад пад квактуху нягодны.

Веснаваньне курэй звычайна пачынаецца ў студзені месяцы. У гэты час пэўні асабліва настроены, грэбні ў іх чырванеюць і яны б'юцца паміж сабою. Куры жадаюць несьціся і неяк асабліва квокчуць.

Дагляд за птушкай не павінен абмяжоўвацца адным харчаваньнем. Трэба, наглядаючы за птушкай, адзначаць зьмены ў яе здароўі і хворых не астаўляць паміж здаровых. Уважлівая гаспадыня ўжо зраньня прымячае, калі ў птушніку што небудзь няладнае. Пасьля харчаваньня, птушак з яйкамі пакідаюць у тым месцы, дзе ёсьць гнёзды, а ўсіх іншых выпускаюць на волю і прыбіраюць у птушніку. Каб лягчэй гэта зрабіць, з вечара пад седалы падсьцілаюць старую дзяружку, а ўраньні дзяружку згортваюць і гной сыплюць у пэўнае месца. Кожны дзень птушнік праветрываюць.

Пасудзіны, з якіх харчуюць птушак, павінны быць чыстымі. Раз у тыдзень у птушніку робіцца грунтоўная чыстка. Седалы моюць і вычышчаюць шчоткай, падсьцілку зьменьваюць і зьмятаюць з сьцен пыл. Калі ў птушніку ёсьць інкубаторы ці квактухі, дык пасьля прыбіраньня займаюцца імі: інкубаторы праветрываюцца, квактух выпускаюць і харчуюць. У гэты час агледаюць гнёзды, дзе сядзелі квактухі. Вечарам птушак харчуюць і заганяюць кожнае на сваё месца. І цяпер назіраюць за птушкай, ці ўсе паселі на седалы, бо часамі, застаўшыяся на зямлі, выказваюць першыя адзнакі занядужаньня. Калі сваячасна зьвярнуць на іх увагу, дык можна лёгка іх вылячыць.

Л. Чартко́ў.

# Наша пошта.

**Клыбіму Г.** Без задатку заказной ці даплатной пачкай „Саху“ выслаць ня можам.

**Кіраю Вінцуку.** Зьвярнецеся па адрэсу: Wilno, ul. Wielka Księgarnia Syrkina.

**Кантановічу, Карасю і інш.** Азімае вікі ў Вільні сёлета дастаць было ня можна.

**Янку Забельскаму.** Такіх садовых закладаў, дзе можна дастаць танныя і добрыя прышчэпы рэдакцыя ня ведае.

**Бурбовічу, Касяку і інш.** Зьвярнецеся да кіраўніка мясцовае пошты і падавайце скаргу ў Дырэкцыю Пошты і Тэлеграфу ў Вільні. „Саха“ вам высылаецца акуратна.

**Саковічу Язэпу.** Высылку „Сахі“ спынілі, бо надалей не прыслалі падпіскі.

**Будніку Мікалаю.** „Саха“ вам высылаецца акуратна. Вінавата тут ваша пошта. Якія нумары не адтрымалі?

**Буркоўскаму Балесламу.** Сельска-гаспадарчая часапісь выдаецца ў беларускай мове ў Менску (Савецкая 71, НКЗ) Каштуе на год 3 руб. 20 кап.; на 6 м-цаў—1 руб. 10 кап.: „Сільский Сьвіт“ на украінскай мове ў Львове (ul. Sobieskiego 32). Каштуе на год - 12 злотых польскіх; на 6 м-цаў —6 зл. поль.; на 3 м-цы—3 зл.

**Струкачу Я., Сідаровічу Ул. і іншым.** Рэдакцыя „Сахі“ заўсёды ідзе на сустрэчу пажаданьням сваіх падпішчыкаў, але ў цяперашнім складзе рэдакцыі на ўсе пытаньні адказаць ня можа. З часам мае быць паклікаваны ў склад рэдакцыі праўнік, доктар і іншыя спэцыялісты, тады будзе адкрыты пры „Сасе“ і адпаведныя аддзелы.

Выдавец: сэн. УЛАСАЎ. Рэактар А. ПАВАЛКОВІЧ.

## Цэны ў Вільні 25-га кастрычніка 1927 г.

| | Злот. |
|---|---|
| **Збожжа:** | |
| Жыта за 100 кіл. . . . | 39—40 |
| Авёс новы „ . . . | 40—42 |
| Ячмень броварны . . . | 45—46 |
| „ на кашу . . . | 59—40 |
| **Мяса:** | |
| Валовае за 1 кіл. . | 2,60—2,70 |
| Бараніна 1 „ . | 2,20—2.40 |
| Сьвініна 1 „ . | 3,20—3,80 |
| **Птушкі:** | |
| Курыца . . 1 шт. | 4,00— 6,00 |
| Піськляты . „ | 2,00— 3,00 |
| Качкі жывыя „ | 5,50— 6,00 |
| „ бітыя „ | 4,00— 6,00 |
| Гусі жывыя „ | 12,00—15,00 |
| Гусі бітыя 1 шт. | 10,00—12,00 |
| Індыкі жывыя „ | 18,00—22,00 |
| „ бітыя „ | 13,00—16,00 |
| **Цэны на рынку.** | |
| Саланіна тутэйшая | |
| . . . . . . 1 гат. | 4,50—4,80 |
| . . . . . . 2 гат. | 2,20—2,30 |
| Малака . за 1 літр | 0,45—0,50 |
| Сьмятана „ | 2,20—2,30 |
| Тварог . . . . . . | 1,20—1,50 |
| Сыр . . . . . . . . | 1,90—2,10 |
| Яйкі . . за 10 шт. | 2,00—2,20 |
| Бульба . за 1 кіл. | 0,14—0,17 |
| Цыбуля „ | 0,40—0,50 |
| Капуста сьвежая . | 0,25—0,30 |

1 даляр . . . . . . 8,88—8,86

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА ад 2-га нумару (1-шы разышоўся) да канца гаду 2 зл. 25 гр.

**Падпішчыкі будуць атрымаць часопіс тэлькі па перасылцы платы.**

**Адрэс рэдакцыі:** Вільня, вул. сьв. Анны, д. № 2, кв. 3.

